№5 (126) 15 САКАВІКА 1999 г.

НН
НАША НІВА
Газэта заснаваная ў 1906 Адноўленая ў 1991
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# МОДА НА ЭКСТРЭМІЗМ

*Тэма нумару*

**У мэтро на «Кастрычніцкай», дзе раней тусаваліся панкі-пацыфісты, цяпер зьбіраюцца скінгеды. Фанаты менскага «Дынама» голяць галовы, карыстаюцца сымболікай гішпанскіх фашыстаў і арганізоўваюцца, як нямецкія хуліганы. Расісцкая рок-група «Красные звезды» раве «Russland über alles», наш сьцёбны «Нэйрадзюбэль» адказвае песьняй «Bielarus über alles». Кунка РНЕ-ПТВшнікаў прымусіла пра сябе гаварыць, бо назаклейвала платы сваім «калаваротам», стылізаваным свастыкай. «Спарыш» «Белага легіёну», таксама стылізаваны, клеяць наверх калавароту. РНЕшнікі з выбрытымі на скронях свастыкамі рэгулярнымі і арганізаванымі налётамі зьбіваюць нэграў і кітайцаў у інтэрнаце Лінгвістычнага ўнівэрсытэту на Варвашэні – міліцыянты, якія там жывуць, баяцца ўмяшацца, хоць гэта іхны, баісься не баісься, абавязак — і пакуль прыязджае выкліканая імі падмога з пастарунку, нацысты ўжо зьнікаюць. Лібэрал-дэмакраты, атожылак Жырыноўскага, сьнісачна самая шматлікая партыя Беларусі — насамрэч партыя братвы і абшчака. Беларуская моладзь выдае самадрук «Гэта мы», якому ў 1939 годзе пазайздросьціў бы Акінчыц, а эпатажны «Правы рэванш» стае адным з найбольш яркіх мастацкіх праектаў 90-х. Сёньня той з наведнікаў «Нашай Нівы» вітаецца «гайль гітлер» — прыкол.**



Мода на экстрэмізм? Тэксты, сабраныя ў гэтым нумары «Нашай Нівы», пацьвярджаюць гэтую моду. «А я пайду па мястэчку, вазьму ў рукі кала і засьпяваю «ла-ла-ла-ла», — сьпявае Вольскі.

Свастыка была сымбалем усяго ангельскага панк-року канца 70-х. Але фактычна моладзь ужывае фашысцкія знакі, надаючы ім іншы сэнс. Моладзь адпрэчвае паноўную культуру хамства і даляра. Запярэчыць ёй найлепш можа тое, што найбольш моцна забаронена і высьмяецца ў добрапрыстойным сьвеце. Моладзь абірае поўнае адмаўленьне — і апынаецца ў тусоўцы скіноў на «Кастрычніцкай». Мы зьдзіўлена адкрываем, што расісты і экстрэмісты таксама стварылі сваю субкультуру, у тым ліку й расейскія расісты й беларускія экстрэмісты, і што яны зрастаюцца з крыміналам. Якая контракультура больш прыцягальная для моладзі: расейсканацысцкая ці беларуская? Два гады таму адназначна здавалася – наша. Цяпер, гледзячы на шыхток РНЕўцаў, што з расейскай песьняй крочаць на трэніроўку ў Палац воднага спорту ці спартзалю Акадэміі мінабароны... Мы закручаныя, яны простыя. Мы гермэтычныя, яны адкрытыя. Мы ставім моўны цэнз, яны – цэнз здароўя. Мы імкнемся максымальна выкарыстоўваць магчымасьці легальнай працы, падтрымліваем клясычны сярэднеэўрапейскі рух дэмакратычнага супрацьву – публічны, грамадзянскі, негвалтоўны; за імі — клясычная паўваенная паўпадпольная арганізацыя. Мы спрабуем ствараць беларускую этыку, яны вызваляюць інстынкты. Фармальна «РБ» — наш дзяржаўны мэханізм, фактычна – іхны. Мы «не бярэм да галавы», яны «не прінімают блізка к серцу». Мы п'ем, яны ядуць.

Агульнаэўрапейская мода на экстрэмізм падмацоўваецца ў нас яшчэ й тым, што ўсё жыцьцё вакол прасякнутае нянавісьцю. Чэргі ў крамах, пашпартныя сталы, аддзелы асьпірантуры, перапоўненыя тралейбусы на Малінаўку ці Кунцаўшчыну, мытня на мяжы – гэта штодзённыя школы нянавісьці, спадчына Савецкага Саюзу. «Красные Звёзды» — група з Кунцаўшчыны... Як і ўсюды ў Эўропе, сёньняшні беларускі экстрэмізм — рэальнасьць спальных раёнаў. «Нянавісьць» Касовіца й «Trainspotting» Уэлша – гэта пра нас. Толькі ў нас спальныя раёны большыя за цэнтар.

Расейскі імпэрскі выклік правакуе беларускі папулісцкі нацыяналістычны адказ. Калі ў 1994-м Статкевіч заявіў, што ЗБВ навядзе парадак і разьбярэцца з засільлем каўказцаў, беларуская інтэлігенцыя прамаўчала. Падтрымліваць экстрэмізм, калі ён свойскі, ці выступаць супраць любога экстрэмізму — вось тэма для роздуму.

*Працяг на старонцы 5*

## Віктар Ганчар:
# «Я АДЧУВАЮ АДКАЗНАСЬЦЬ ЗА КРАІНУ...»



*Абставіны вызваленьня Віктара Ганчара, аслабленае пасьля зьняволеньня і сухой галадоўкі здароўе старшыні Цэнтравыбаркаму прымусілі мяне задумацца над журналісцкай настойлівасьцю. Ведаючы, што пляны Камісіі па выбарах прэзыдэнта не разгалошваюцца, а факты абыходжаньня зь Віктарам Ганчаром у спэцпрымальніку і вакол ягонага арышту будуць апісаныя ў іншых газэтах, я спынілася на тэме: Ганчар — чалавек і Ганчар — у сьвятле прынцыпаў газэты «Наша Ніва». Абавязкова хачу падзякаваць жонцы палітыка і яму асабіста за выдзелены мне ў такі няпросты пэрыяд час.*

**«НН»: Мне здаецца, што так моцна рызыкаваць сваім здароўем і нават жыцьцём можна хіба толькі ў імя ідэі ці вельмі прагматычнай мэты...**

Віктар Ганчар: Насамрэч тут нават не было праблемы выбару. Для мяне асабіста выбар быў зроблены даўно. Калі, на вялікі жаль, не застаецца іншых спосабаў і сродкаў для абароны сваіх прынцыпаў, прыходзіцца йсьці на пакуты. У гэтым сэнсе, падкрэсьліваю, праблемы выбару для мяне не было. А ўлічваючы, што да ўсяго дадаецца пачуцьцё элемэнтарнай мужчынскай годнасьці, сапраўды ровень матывацыі быў надзвычай высокі. І я магу сказаць, калі б для таго, каб адстаяць свае прынцыпы, трэба было пайсьці на яшчэ большыя пакуты, я ня думаю, што для маёй матывацыі была б мяжа.

**«НН»: Газэта «Народная Воля» напісала «Віктар Ганчар гатовы памерці за вольную Беларусь». Месца й роля Беларусі як краіны ў вашым змаганьні?**

В.Г.: Стопрацэнтнае. Я б, можа, не пераходзіў на той высокі патэтычны ровень. Я гэта значна спрашчу, бо праўдзівыя інтэлігенты заўсёды выражаюць самае патаснае дастаткова проста. І хоць я інтэлігент у першым калене і насамрэч не прэтэндую на асаблівую інтэлігентнасьць, тым ня менш, для мяне гэта была праблема выбару для маёй краіны. Я проста не хачу жыць у краіне, дзе пануе беззаконьне і жудасны садызм.

**«НН»: А Вы б змаглі жыць у Саюзе Беларусі і Расеі?**

В.Г.: Гэтае пытаньне для мяне на сёньняшні дзень абсалютна абсурднае. У нас ёсьць свая краіна, свой дом. І гэтыя словазлучэньні не ба-

*Працяг на старонцы 4*

# Знакам тым

Замежны калега-журналіст папрасіў коратка апісаць гісторыю Беларусі за апошнія пяць гадоў. Калі трэ было перачытаць кампутарны тэкст, напісаны па-ангельску, стала чырвона ўваччу ад падкрэсьленага як памылковае слова Lukashenka. Пасьля стала мутарна ў галаве, бо пасьля кожнага тэматычнага абзацу ў калегі ўзьнікала пытаньняў дваццаць. Далей – болей. А скончыла я сваю асьветніцкую дзейнасьць для калегі – журналіста, калі ён, гасьцюючы ў мяне дома ў жніўні, глядзеў Беларускае тэлебачаньне, якое паказвала «Дажынкі». Я, як магла, перакладала калегу на цывілізаваную мову нецывілізаваны канцэрт. А пасьля перакладзенай прыпеўкі, якую весела выканаў фальклёрны ансамбаль, калега проста сказаў: «Я ня веру. Ня можа такога быць». А з тэлевізара раўло:

Мы сьпявалі, танцавалі, добра весяліліся,

Выбіралі прэзыдэнта і не памыліліся. .

Ужо чатыры гады назад недзе веснавою парой можна было пачуць – «Гэта ўсё. Большага маразму быць ня можа. Канец хуткі.» Пасьля слова «маразм» становіцца скарочаным камэнтаром у абмеркаваньні баларускай сытуацыі. Супрацьстаялі маразму хто як мог – галадавалі ў будынку парлямэнту, станавіліся дабраахвотнмм штатнымі пікетчікамі ці публіцыстамі, вывеш-

*Працяг на старонцы 4*




## Чэслаў Сэнюх:
# «Я ПАПРАСІЎСЯ Ў ГРАМАДЗЯНСТВА БНР»

*Чэслаў Сэнюх — вядомы польскі літаратар, перакладчык і папулярызатар беларускай паэзіі (некалькі апошніх гадоў ён працуе над перакладам «Новай зямлі» Якуба Коласа), жыве ў Варшаве. «Новая зямля ад перакладчыка», паэма Ч.Сэнюха, выходзіць у першым нумары часопісу «ARCHE» сёлета. У 1992-м спадар Чэслаў наведваў рэдакцыю «НН», гутарка зь ім друкавалася ў газэце. А сёньня наш карэспандэнт завітаў да яго ў Варшаву.*

Чэслаў Сэнюх: Пачнем з таго, што я зьяўляюся сябрам ЗАІКСу — польскай арганізацыі дзеля абароны правоў кампазытараў, паэтаў, празаікаў ды іншых людзей творчых прафэсіяў. Чэслаў Любча — мой літаратурны псэўданім, бо нарадзіўся я ў беларускім мястэчку Любча.

Ня памятаю ўжо, у якім сваім вершы згадаў, што я выхаванец чатырох славянскіх моваў. Мая мама ведала беларускую, бо яна беларуска, тады польскую, украінскую (доўгі час жыла ў Кіеве) і расейскую. Яна мне сьпявала калыханкі на гэтых чатырох мовах: «Плыне, Вісла, плыне...», «Спі, младенец мой прекрасный...» і гэтак далей. Бацька мой сьпяваў па-нямецку — як колішні аўстрыйскі падданы, бо родам з Падольля. Сам я вывучаў нямецкую ў часы акупацыі разам зь беларускай. Ні польскай, ні расейскай пры немцах ужо не было. Навуку здабываў у беларускай семігодцы, якая месьцілася ў Любчанскім замку, а таксама на панадворку, на вуліцы. Любча была такім, я сказаў бы, міжнародным мястэчкам, чатыры з паловай тысячы жыхароў. Палову складалі жыды, працэнтаў трыццаць — беларусы, у астатнія дваццаць уваходзілі палякі ды іншыя.

**«НН»: Што яшчэ помніцца з часоў нямецкай акупацыі?**

Ч.С.: Помніцца сяброўства ў СБМе — Саюзе Беларускай Моладзі, як сьпявалі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Песьню-малітву «Магутны Божа» я пачуў упершыню ў Любчанскай праваслаўнай царкве.

*Працяг на старонцы 16*

## Віктар Ганчар:

# «Я АДЧУВАЮ АДКАЗНАСЬЦЬ ЗА КРАІНУ...»

*Працяг са старонкі 1.*

нальныя. Натуральна, што любы нармальны беларус стараецца навесьці парадак у сваім доме. А калі ўлічыць, што я вырас на Захадзе, дзе традыцыйная мэнтальнасьць беларуса выражаная найбольш яскрава, для мяне гэта рэчы арганічныя і зразумелыя. Калі ставіць пытаньне ў плоскасьці нейкіх саюзаў, дык, апроч усяго, гэта супярэчыць мэнтальнасьці беларуса, а Вы самі разумееце, што з пункту гледжаньня рэальных працэсаў — гэта ўсё павінна быць ацэненае і з псыхіятрычных парамэтраў.

**«НН»: Некаторыя запланаваныя мной пытаньні ўсё ж былі неадназначнымі для мяне самой — напрыклад, пра беларускасьць Ганчара. Магчыма, гэты бок Вашай асобы малавядомы, тым ня менш, што для вас ёсьць сымбалем беларускасьці?**

В.Г.: Сымбаль беларускасьці для мяне — гэта мая маці. Дастаткова яе ўбачыць, паслухаць. Мая маці — гэта ўвасабленьне ўсяго самага добрага, што ёсьць у кожным беларусе. Папершае, надзвычайная адкрытасьць, чысьціня і нават сьвятасьць. Даверлівасьць. Усё гэта адначасова спалучаецца з асаблівай манерай гаварыць, думаць, выказваць. Гэта для мяне сымбаль беларускасьці.

**«НН»: А ці ёсьць ў Вас любімая беларуская прымаўка?**

В.Г.: Самая лепшая прымаўка, якую любіў паўтараць мой бацька: няма таго кепскага, што на добрае ня выйдзе.

**«НН»: Чаму Вы вучыце свайго сына?**

В.Г.: Рэч у тым, што я, нягледзячы на тое, што 5 гадоў выкладаў у ВНУ, ніколі не прэтэндаваў на высокае званьне пэдагога і стаўлюся да сваіх пэдагагічных здольнасьцяў скептычна. Галоўнае правіла, якога прытрымліваўся, і якое, мне здаецца, спрацоўвае, — служыць асабістым прыкладам для майго сына. І ў вялікім, і ў драбязе. Тое, што мой сын з двух гадоў для мяне зьяўляецца чалавекам, за якога я ніколі не чырванеў і не саромеўся, гэта, відаць, і ёсьць вынік майго пэдагагічнага рэцэпту. А калі гаварыць па-мужчынску, я вельмі задаволены, што цяпер, калі ў сына такі ж самы памер як у мяне, праўда, пасьля галадоўкі ўжо большы за мой, з маёй падачы сын можа прабіць любую сьцяну. Я маю на ўвазе чыста мужчынскія моманты. Гэта нягледзячы на тое, што яму 16 гадоў.

**«НН»: На якіх прынцыпах вучыліся Вы?**

В.Г.: Тое, што дадзенае ад Бога, тое, што ў характары — гэта не мае дасягненьні. У 10-й клясе, калі быў па ўсіх паказчыках выдатнікам, ішоў на «залаты мэдаль», напісаў сачыненьне на тэму «Герой нашага часу». Улічваючы, што тады быў канфлікт і палітычны скандал вакол Андрэя Сахарава, героем нашага часу стаў для мяне Сахараў. Паўгода тады мяне цягалі ў КГБ. Цяпер гэта гучыць анэкдатычна, сьмешна, але гэта так. І тут я б не хацеў пераводзіць усё ў сфэру патэтыкі. Хацеў апэраваць простымі паняцьцямі — я зь дзяцінства бараніў усё тое, што было зьвязана з маім разуменьнем годнасьці, бараніў гэта любымі спосабамі. Без перабольшаньня. Мяне нават ніколі ў жыцьці бацька не караў, бо ведаў, што гэта бяз сэнсу.

**«НН»: Людзям, якія па-за вірам палітычных падзеяў, і людзям, якія ў іх, усё цяжэй псыхалягічна страваваць беларускую сытуацыю. Зьяжджаць? А навошта? Асоба найлепш можа рэалізавацца на радзіме... Як бы гэтую сытуацыю схарактарызавалі Вы?**

В.Г.: Я, у першую чаргу, адчуваю адказнасьць за краіну. І гэта таксама ня фраза. На жаль, апошнім часам сапраўды кожны чалавек падзяляецца: з аднаго боку ён звычайны чалавек і ва ўмовах, калі ён элемэнтарна змагаецца за існаваньне, змушаны ўключаць нейкія абмежавальныя нават не бар'еры, а інстынкты. І ў сытуацыі, калі ўсё грамадзтва псыхалягічна і маральна задушана, а некаторыя проста ліквідаваныя, чакаць ад простых людзей высокіх праяваў самасьведамасьці — пры ўсёй павазе да майго народу — не выпадае. У сувязі з гэтым у мяне адзінае пачуцьцё — адказнасьці. Як інтэлігенту, як чалавеку, які, бязь лішняй сьціпласьці, адносіць сябе да эліты, — мне важна несьці адказнасьць за сваю краіну, каб для кожнага беларуса стварыць тую нармальную палітычную, сацыяльную, культурную й эканамічную атмасфэру, якая б была роднай і блізкай жаданьням і мэнтальнасьці. Тое, што робіцца з краінай цяпер, і гэта без усялякага перабольшаньня, — сапраўдная нацыянальная трагедыя.

**«НН»: Сакавік багаты на сьвяты. Сёньня — Дзень Канстытуцыі, у імя якой і паводле якой мы ўсе жывем і дзейнічаем цяпер. 25-га — Дзень Волі. Да апошняга часу — элітарнае сьвята. Ці ёсьць 25-га сакавіка адметным днём для Вас, Віктар?**

В.Г.: Маёй любімай дысцыплінай у школе была гісторыя. На жаль, да пэўнага часу я ня меў магчымасьці вывучаць гісторыю з рэальных першакрыніцаў, якія ствараюць аб'ектыўную карціну. Шмат якія рэчы я, натуральна, пераасэнсаваў. Для мяне 25-га сакавіка — гэта дзень, які, ня ў першую чаргу — я не магу так сказаць, бо шмат што зьвязана з выхаваньнем, традыцыяй, — але для мяне цяпер гэты дзень, які ў шэрагу іншых памятны, зьяўляецца сымбалем нашай дзяржаўнасьці, нашай нацыянальнай годнасьці.

**«НН»: Што б Вы перадалі тым, хто змагаўся за Вас і тым, хто змагаецца супраць Вас?**

В.Г.: Што да апошніх — гэта не ў маіх правілах, прынцыпах — асуджаць. Я ўдзячны перадусім жонцы і журналістам. Толькі яна і толькі яны забясьпечылі такі вынік супрацьстаяньня...

**«НН»: Спадар Віктар, Вы думаеце, што гэта ўжо развязка?**

В.Г.: Рэч у тым, што я чалавек вельмі прагматычны. Таму любы вынік я разглядаю як фундамэнт для новых дзеяньняў. Гэта ня толькі вынік. Гэта вялікая наша з Вамі і маральная, і палітычная перамога. У нас ёсьць грунт для ўратаваньня нашай краіны.

**«НН»: Сваім прыкладам Вы адрадзілі надзею ў многіх людзей. А гэта вялікая адказнасьць, калі табе паверылі людзі. Ідзем да канца?**

В.Г.: Безумоўна. Для мяне праблемы выбару тут не існуе. Якім бы чынам ні разьвіваліся падзеі, усё, што зьвязана з маёй чалавечай і службовай адказнасьцю за той працэс, да якога спрычыніліся лёс, народ, Вярхоўны Савет, я свой абавязак выканаю. Пры любых умовах і абставінах, сцэнарах, бо, на жаль, ня ўсё залежыць ад нас і нашых намаганьняў. Я ўпэўнены, што сёлета лёс Беларусі кардынальна зьменіцца: мы будзем з новым кіраўніцтвам і новым прэзыдэнтам.

**Гутарыла Вольга Караткевіч**

# ЗНАКАМ ТЫМ

*Працяг са старонкі 1.*



валі сьцягі, малявалі выявы ППРБ, вялі маніторынгі парушэньняў правоў чалавека і законаў у РБ, спрабавалі вярнуць краіну ў канстытуцыйнае поле. Здавалася, апошні спадзеў быў пахаваны ў лістападзе 96-га. І вось, 1999-ты. На масавых акцыях я сустракаю людзей, якія з пару гадоў абмяркоўвалі брыдоту рэаліяў выключна на ўласных кухнях, у пярэрвах паміж творчай дзейнасьцяй, выкарыстоўваючы ўсё больш радыкальныя ацэнкі і эпітэты ў дачыненьні да патэнцыі беларускай апазыцыі. Цяпер усе мы-яны як адзін увязаліся ў Выбары-99. Сьвядома і рашуча. Недзе адчуваючы глыбінныя віры адбываных падзеяў, аднак разумеючы вызначальнасьць пэрыяду. Мы паверылі Віктару Ганчару, мы паверылі ў магчымасьці апазыцыі аб'яднацца, мы паверылі, што разам – пераможам. Мы ўпарта дэманструем, што паверылі.

25-га сьнежня 1998 году я перабывала ў Варшаве. Польскія мэды ў калядныя дні неахвотна гавораць пра палітыку. Усё сьвяточныя паведамленьні. Раптам на RTL7 навіна – беларусы й расейцы дамовіліся аб аб'яднаньні. Шокавы стан перарвалі тэлефанаваньні польскіх знаёмых журналістаў: ці варта сьпяшацца акрэдытавацца ў Беларусі, каб асьвятляць масавы супраціў? Дзівосы. Палякі думалі, што павінна была выйсьці палова Беларусі на вуліцы... Найцяжэй было тлумачыць, чаму толькі тысяча. Цяпер – тысячы бяруць удзел у арганізацыі выбараў прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь у 1999 годзе. І гэта найлепшае тлумачэньне пазыцыі дэмакратычнай часткі насельніцтва: выпадковых людзей у гэтай кампаніі мала. І рызыка – сьвядомая. Страх цяперашніх уладаў рэалізоўваецца ў мэтадах брутальных рэпрэсіяў. Арыштоўваюць пачкамі. Найбольш моцных – чытай – небясьпечных - саджаюць. Самых нязломных - стараюцца зламаць. Мэханізм заведзены. Дзярждэпартамэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі пратэстуе супраць арышту сябраў Цэнтравыбаркаму. Дзярждэпартамэнт патрабуе вызваліць Віктара Ганчара. Ураджэнец краіны, дзе выпускі навінаў пачынаюцца з культурніцкіх паведамленьняў, каб не нэрваваць народ, – нарвэжац, старшыня АБСЭ, ня можа змаўчаць – фактычна артыкулюе ў звароце да «Правасхадзіцельства Аляксандра Лукашэнкі» – «свабоду Ганчару»: далібог, група ў Менску з назіральна-кансультацыйным статусам ня мае права камэнтараваць адбыванае ў Беларусі, аднак спраўна перадае кроніку падзеяў у «цэнтар». Не вытрымлівае адна з самых цывілізаваных партыяў Украіны – Народна-дэмакратычная. За подпісам старшыні А. Матвіенкі распаўсюджваецца зварот, у якім украінскім уладам нагадваецца, што на дакумэнтах подпісы Лукашэнкі легітымныя да 20 ліпеня 1999 году, а беларускім апазыцыянэрам прапаноўваецца маральная падтрымка і рэальная - у якасьці назіральнікаў за ходам прэзыдэнцкіх выбараў 16-га траўня 1999 году. Чэхі, зрэалізаваўшы адну з задачаў-максымум – уступленьне ў НАТО, могуць цяпер нарэшце паглядзець углыбкі на Ўсход. У Празе адкрываецца прадстаўніцтва Хартыі-97, Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў Беларусі сустракаецца на высокім роўні ў Празе і атрымоўвае гарантыі падтрымкі дзеяньняў у рамках Канстытуцыі 1994 году. На жаль, гатовасьць міжнароднай грамадзкасьці вэрбальна рэагаваць на дзікунскія праяўленьні ўладанеспатольнасьці беларускага рэжыму, не адбіваецца на лёсах людзей. Тых, хто павёў за сабой тысячы наважаных. Віктар Ганчар, які стаў прыкладам мужнай пасьлядоўнасьці ў мэтадах палітычнай барацьбы, зьнясілены галадоўкай, органамі выкінуты з машыны у адным пінжаку



далёка ад месца пражываньня. Цяпер Ганчар пад пагрозай крымінальнага артыкулу за нібыта прысваеньне ўладных паўнамоцтваў. Міхаіл Чыгір, які стаў прыкладам цьвярозых і цывілізаваных мэтадаў палітычнага змаганьня, – пад пагрозай быць абвінавачаным у невяртаньні крэдытаў на вялікую суму грошай. Зянон Пазьняк, які стаў прыкладам упартасьці ў апэляцыі да нацыянальнай сьведамасьці беларусоў і выкрыцьці чарговых праектаў расейскіх спэцслужбаў, – пад пагрозай неразуменьня бальшынёй самых радыкальных беларускіх дэмакратаў: многія зь іх зрабілі стаўку на выкрыванага Пазьняком Чыгіра. З розных прычынаў. Каб іх ведаць дакладна, трэба варыцца ў беларускім катле.

Улады малююць зборны вобраз ворага народу – нацыянальна сьведамы, мужны, дастойны, заможны. Толькі самымі моцнымі апазыцыянэрамі ППРБ апекуецца асабіста. І апазыцыянэрам ня сорамна прыходзіць увечары дадому. Яны – героі. Чаго ня скажаш пра каманду ППРБ, на якую, як клясны кіраўнік, ППРБ любіць пакрычэць, дазволіць мэтафару: «Вы, Пётр Петровіч, перад МВФ за 90 мільонов долларов по-пластунскі в грязі кувыркаетесь ...» ці проста публічна выгнаць з паседжаньня, як старшыню Магілеўскага аблвыканкаму Кулічкова . Ды шчэ пратрансьляваць па родным БТ. Каб уся «рэспубліка» моцную руку адчувала. Як, цікава, чальцы «каманды» ППРБ могуць прыходзіць дадому, да сваіх жонак ці жанчынаў пасьля нарадаў, на якіх яны сядзяць нібы зь непадрыхтаваным хатнім заданьнем школьнікі? Што гэтыя джэнтэльмэны гавораць сваёй палове? Няўжо: «Ну, ты бачыла?»... Аказалася, што для ўсіх бакоў дагэтуль актуальныя камсамольскія прынцыпы Зоі Касмадзям'янскай: «Усіх не перавешаеце!»

**Вольга Караткевіч**

## Восіп Мандэльштам

***

*Маё жыцьцё сухое*
*Агонь амаль даеў,*
*Ня каменю затое,*
*А дрэву ўзношу сьпеў.*

*І лёгка ўсё і груба.*
*І з аднаго бруска*
*І сарцавіна дуба,*
*І вёслы рыбака.*

*Мясіце палям плечы,*
*Крычыце, малаткі,*
*Пра рай драўляны – рэчы*
*Там лёгкія такі.*

***

*Ні пра што ня трэба гаварыць,*
*І ня варта хоць чаму вучыць,*

*І самоце верыць, як сьпярша,*
*Цёмная зьвярыная душа:*

*Хоць чаму ня хоча навучыць,*
*І зусім ня ўмее гаварыць.*

*Маладым дэльфінам па вірах*
*У Сусьвеце сівым гоніць страх.*

***

*У іможы гукам гулкі прытулак.*
*Лес прагнаў вечны страх за красу.*
*Лёгкі крыж свой самотных прагулак*
*Я пакорліва зноў панясу.*

*Зноўку да раўнадушнай айчыны*
*Узьляціць дзікай качкай папрок, –*
*І да змроку жыцьця я прычынны,*
*Дзе самотнае ўсё як знарок!*

*Грымнуў стрэл. Над азёрцам спакойным*
*Крылы качак цяжэй ад смалы,*
*І быцьцём зьлюстраваным падвойным*
*Адурманены соснаў ствалы.*

*Неба дзіўнае з водсьветам цьмяным –*
*Боль, сусьвету стуманены боль –*
*О, дазволь быць таксама туманным*
*І цябе не кахаць мне дазволь!*

***

*О неба, ты мне будзеш сьніцца звонка!*
*Ня можа быць, каб ты асьлепла зблізку,*
*І дзень згарэў, як белая старонка:*
*Панюшка дыму і панюшка прыску!*

***

*Няхай імёны пышных гарадоў*
*Слых лашчаць значнасьцю ў зьнікомай мэце.*
*Ня горад Рым жыве сярод вякоў,*
*А месца чалавекава ў сусьвеце.*

*Ім авалодаць тужацца цары,*
*Апраўдваць войны сьвятары гатовы,*
*А безь яго, як тыя сьмецьця сховы,*
*Нікчэмныя палацы й алтары.*



***

*Сёстры – грузь і пяшчота, аднальковыя вашы прыкметы.*
*Медуніцы і восы прагна ружу сьцяжэлую ссуць.*
*Чалавек памірае. Пясок астывае нагрэты,*
*І ўчарашняе сонца на чорных насілках нясуць.*

# КУРОРТНІКІ Й КАРЛАВАРЦЫ

*Працяг са старонкі 13.*

яго ведаць усе ватэрклязеты, а колькасьць прынятых ваннаў, душаў-шарко, масажоў робіць яго ружовым, усьмешлівым і вялым, як дзіцячы мядзьведзік, зь якога вытрыбушылі пілавіньне. Курортніку нічога ня трэба, усё ёсьць. Курортнік амаль ня паліць тытуню, амаль не ўжывае алькаголю, солі, смажанай бульбы, кансэрваванай садавіны й гародніны, пончыкаў, какосаў, кавы, маянэзу, масла, сала, лою, ікры, качкі, гусака, вантробаў вялікіх і малых жывёлаў і пінцакаў, вяндліны, згушчанага малака й тлустых ёгуртаў. Жыве ціха. Шмат прагульвасцца ў лесе, па горных сьцежках. Выглядае на поўнага ідыёта. Толькі гэта падман. Ёсьць занятак, які захапляе курортніка цалкам: любоў да самога сябе. Ён шануе свае органы: страўнік, кішэчнік, сэрца, ныркі, язык, горла, падстраўнікавую залозу, сьпіну, жывот, чэлес і ўсе астатнія складнікі немаладога арганізму, без выняткаў. Душа курортніка сыціць. Што можа быць лепш? Нірвана, адным словам. І адзін з асноўных удзельнікаў гэтых курортных кайфаў — афіцыянт.

Тыповы карлаварскі афіцыянт носіць шаўковую камізэльку з хлясьцікам на таліі. Ён вышкалены, крышку санлівы, гаворыць па-расейску, нямецку, ангельску й зусім ня радуецца чэскім словам, пачутым з вуснаў замежніка. На піва бярэ з робленай абыякавасьцю. А можа, гэта я не даваў столькі, каб зьдзівіць ці ўзрадаваць? Але на што мне зьдзіўляць карлаварскага афіцыянта? Не пэрсона, не асоба, форма жывой рэстарацыйнай мэблі, дадатак да відэльца з нажом. Толькі найпрыгажэйшы карлаварскі заваконны краявід страчвае палову чароўнасьці, калі на пярэднім пляне адсутнічае гнуткая постаць афіцыянта.

Што падманваць, выдатныя ў Карлавых Варах горы і без афіцыянтаў з паліцыянткамі. Адно задавальненьне шпацыраваць па схілах і захапляцца рамантычнай архітэктураю эўрапейскага гарадка. Як для паэта, дык лепей і не бывае, асабліва для сэнтымэнталіста, аматара чароўных казак і гатычных гісторыяў. Але з усіх тамтэйшых гор мяне ўразіла не каменная грамада, а гурба з костак, тлушчу й скуры. Ізраільцянін — чалавек-гара, чалавек-слон, чалавек неверагоднай шырыні, вагі й масы. Цыгарэта ў ягонай руцэ выглядала, што запалка. Канапа, як толькі ён прысядаў на яе, ператваралася ў фатэль. Людзі, рэчы, расьліны мізарнелі побач з чалавекам-гарой. З раніцы й да позьняга вечара ён упрыгожваў сабою гатэльны хол. Ён прыехаў з мэтаю пахуднець, але на сьняданак зьядаў пяць яек з блінамі. А таму да скону ён застанецца чалавекам-гарою. Канечне, можа, хто й навучыць яго нюхаць какаін, які імгненна зганіць тлушчы. Можа, хто іншы, толькі ня я, бо мне вельмі падабаецца чалавек-гара зь Ізраілю за выключнасьць, адметнасьць і непаўторнасьць. А вось музыка ў гатэлях і рэстарацыях не лягла на душу. І ўсё з-за музыканта.



Рэстарацыйны музыка ў Карлавых Варах — сыты, як кот самотнай немаладой кабеты. І найгрышы ён любіць салодкія, поўныя ўспамінаў пра вялікія імпэрыі: Аўстра-Вугорскую й СССР. Таму сьпявае пра падмаскоўныя вечары й пра Yesterday, пра былую Чэхаславаччыну, дзе чэхі хадзілі ў панах, а славакі ў работніках. Грае карлаварац для немцаў з расейцамі, якія пампуюцца півам і шчодра пляскаюць пасьля кожнага шлягера. Мне ад такой музыкі робіцца млосна, таму й пазьбягаю рэстарацыяў з жывым карлаварскім голасам. А ёсьць жа такія, што любяць гукавую патаку, як мой сусед у гатэльным калідоры, мардаты азэрбайджанец.

Аднаго разу ён выйшаў з прыбіральні й зашпіліў гульфік. Як у показцы пра расейскага шпіёна, якога выкрылі ў Амэрыцы за зашпільваньне нагавіцаў пасьля выхаду з прыбіральні. Толькі гэта не анэкдот, а самая натуралістычная рэальнасьць. Нафтабарон выкаціўся з ватэрклязэту ў хол нашага гатэлю «Калянада», зашпіліў дарагія нагавіцы, вывудзіў з кішэні «сотавік» і пачаў весьці перамовы з расейскім банкам пра набыцьцё гатэлю Залата Карона за сорак мільёнаў чэскіх каронаў. Ён так упэўнена гаварыў пра выгоды моманту, пра рэальнасьць цаны ў мільён амэрыканскіх даляраў, пра магчымасьць скідак, што я ўпэўніўся ў хуткім пераходзе Залатой Кароны ў маёмасьць азэрбайджанскіх нафтабосаў. І можа, там, у Залатой Кароне, яму ціхенька падкажуць пра неабходнасьць зашпільвацца яшчэ да выхаду з прыбіральні. Ці, маючы грошы, чорны барон найме чалавека, які будзе яму рабіць няхітрую працэдуру.

Дзякуй па-чэску «diki!». І чэхі дзякуюць адзін аднаму бясконца. І лётаюць дзікі па ўсёй Чэхіі, і спасу ад іх няма. Глядзіш, і сам дзікнуў раз, дзікнуў два і паціху прывык. Але ўкладаць хоць бы кроплю ўдзячнасьці ў diki! я так і не навучыўся. Хоць варта шчыра падзякаваць чэхам за наш беларускі сьцяг.

Якіх толькі сьцягоў не вісіць на гатэлях у Карлавых Варах! Усялякіх і розных. Але мне хочацца пабачыць наш. І я хаджу ад гатэлю да гатэлю й выглядаю беларускі сьцяг. Нацыяналіст ён і на адпачынку нацыяналіст. І што ты думаеш, знайшоў. Над ганкам гатэлю Imperial побач зь фінскім лунаў наш бел-чырвона-белы. Старэю, і як папулярызатар бел-чарвона-белай гісторыі Вова Арлоў, шукаю на чужыне беларушчыну. Зрэшты, Чэхія не чужына, а нашая родная славянская зямля і трава.

Ніводзін з чэхаў на тую траву і ўвагі не зьвярнуў. Трава як трава. А я вачэй адвесьці ня мог. Сярэдзіна лютага, як у Беларусі, дык самыя

Ах, пяшчотныя сеткі і важкія соты!
Камень зрушыць лягчэй, чым імя тваё паўтарыць.
Анічога ў мяне акрамя аднае турботы, —
Залатое турботы, як часу паклажу збыць.

П'ю паветра змутнелае, як цёмныя воды нядужы.
Плугам час узараны, і ружа зямлёю была.
У марудным вадазвароце цяжкія, пяшчотныя ружы,
Ружу грузь і пяшчоту ў двайныя вянкі запляла.

***

Праз ноч шахраяў грэла сварка —
Ў шынку гулялі ў даміно.
Прыйшла зь яечняю шынкарка;
Манахі выпілі віно.

На вежы ўзьеліся пачвары,
Чый вышчарам страшнейшы рот?
А ўраньні казанік паджары
Ў палаткі заклікаў народ.

На рынку звадзяцца сабакі,
Мянялы ляскае замок.
У вечнасьці крадзе ўсялякі,
А вечнасьць — як марскі пясок.

Яго губляюць панарады —
Ен не трымаецца ў мяхах.
І пра начлег, яму ня рады,
Адну лухту нясе манах.

***

Забыўся слова зноў, што я хацеў сказаць.
Сьляпая ластаўка пад ценяў столь прыб'ецца,
На крылах зрэзаных, з празрыстымі гуляць.
Узрушанасьцю сьпеў начны пяецца.

Ня чутна птушак. Цьмян як сам ня свой.
Табун сьвітае грывамі шаўкова.
Пусты чаўнок плыве ў траве сухой.
Між конікаў прытомнасьць траціць слова.

І ледзь расьце, як храм, на злосьць бядзе,
То раптам здасца звар'яцелай Антыгонай,
То ў ногі мёртвай ластаўкай падзе,
З стыгійскай ласкай і галінкаю зялёнай.

Відушчых пальцаў сорам ня вярнуць мане
І выпуклую радасьць пазнаваньня.
Рыданьне аанідаў страшна мне
І водзван, і туман, і зьзяньне!

Ва ўладзе сьмертных і кахаць, і пазнаваць,
Для іх і гук у ксты пральецца,
Ды я забыўся, што хачу сказаць, —
Душа пад ценяў столь бясплотная прыб'ецца.

Празрыстае ўсё не аб тым цьвярдзіць,
Бо ластаўка, сяброўка, Антыгона...
А на губах, як чорны лёд, гарыць
Стыгійскага прыпамінаньне звону.

***

Калі з ударамі ўдар сустракаецца,
І нада мною, як кон,
Забыўшы стому, маятнік гайдаецца,
І хоча быць мне лёсам ён,

Сьпяшаецца, і груба супакоіцца,
І выпадзе верацяно, —
І немагчыма ўбачыцца, дамовіцца,
І не ўхіліцца ўсё адно.

Узоры вострыя пераплятаюцца,
І, ўсё шпарчэй, імпэтней зноў,
Атручаныя дроцікі ўзьвіваюцца
Ў руках адважных дзікуноў...

З расейскае пераклаў Рыгор Барадулін



# Рыгор Барадулін

### ВОСІП МАНДЭЛЬШТАМ

Беспрытульны, як восеньскі вецер,
Клаў у дзьверы даверу ксты.
І ў раку шанцаваньня венцер
Ставіў
І выцягваў пусты.

І бядачыў, і бачыў зоры
Там,
Дзе бачылі вугалі.
Утрапёны,
На радасьць хворы
Слухаў,
Як завірухі гулі.

Гналі, мучылі, зьняважалі,
І на неба саслалі.
Там
Можа, будзе боскага жалю
І павагі варт
Мандэльштам...

маразы, самыя сумёты. Карлавы Вары таксама сьнегам заваліла. А тут сонца: сьнег на дарожныы адхоне растаў, і ў вялікай праталіне зялёная, сьвежая, вясновая трава. Чэху тая трава ня ў дзіва, а мяне парадавала. Можа, і ў Беларусі ёсьць шмат розных цудаў, паўз якія праходзім, не спыняючыся? Можа, наш бацька нацыі — таксама цуд неацэнны? Гумар, канечне.



Чэхі, дарэчы, нацыя з гумарам. Яны заўсёды ў гуморы. Адно цяжка зразумець: чаму яны носяць такі сьмешны, швейкаўскі, дзябёлы абутак фірмы Bat'a. І абуваюцца ў яго ўсе пагалоўна. Мусіць, іхны прэзыдэнт з драматургаў, Вацлаў Гавэл, гэтаксама крочыць у аб'яднаную Эўропу ў бацявых чаравіках. У кожнага народа свой баця. Чэхі, пэўна ж, дзівяцца зь беларусаў, якія маюць у прэзыдэнтах бацьку з саўгасных дырэктароў.

Лёс кпіць з кожнай нацыі па-свойму. І ў немцаў, былых гаспадароў Карлавых Вараў, быў свой «государственный лидер».

Немцаў тут процьма была, ёсьць і будзе. У немца тут ці ня ўсе магчымыя перавагі, нават жывая гісторыя вялікай Германіі на кожным кроку: дом, дзе жыў Гётэ, віла, дзе адпачываў Бэтговэн, тэатральны гаўбец, зь якога гарлаў Гітлер... Грошай у немца больш, чым у чэха, і ён прыяжджае ў некалі свой Karlsbad, і не адзін, а з ладнай каханкаю. Залазіць у саўну, прэе, выскоквае, намазвае расчырванелую скуру кветкавым мёдам і боўтаецца ў дубовую бочку зь ледзяною вадой. Немец нікога не саромеецца: плавае ў агульным басэйне цалкам голы. А пасьля лазьні сядае ў бары, п'е нямецкае піва й гучна сьмяецца. Па немцы ня скажаш, што ён шкадуе страчаны Нямеччынай у 1945-ы казачны Karlsbad, бо ён верыць у хуткае аб'яднаньне ўсёй Эўропы, ва ўрачыстае й пераможнае шэсьце нямецкага капіталу на чэскія тэрыторыі, у сваё канчатковае вяртаньне ў Карлавы Вары ня госьцем, а гаспадаром. Перад немцам — доўгатэрміновая пэрспэктыва, а вось у ягонай каханкі, з выгляду вугоркі, пэрспэктываў нямашака. Па ўсім відаць, наступным разам немец прыедзе разам з жонкаю, каб палескаваць прыпісаныя півам ныркі. А гэтым разам прамываць ныркі прыехаў казах.

У казаха выдатны гарнітур-тройка. Такі строй можа сабе пашыць толькі дзяржаўны чыноўнік найвышэйшага рангу. Казах загадвае мытнямі і нядаўна балятаваўся ў прэзыдэнты Казахстану. Таму ўсе навокал — патэнцыйныя парушальнікі мытнага заканадаўства Рэспублікі Казахстан. Адпаведна, трымаецца пэўная адлегласьць. І ў шатні, калі ён быў загорнуты ў прасьціну, а я выкручваў плаўкі, дыстанцыя захоўвалася. І цыцкастая мэдсястра, што заляцела ў разьдзявалку, ні на міліметар не парушыла той адлегласьці. «Я нічэвоо нэ відела!» — прагаварыла жанчына, утаропіўшыся ў мой чэлес. «Слепая, да? Ты — слепая?» — чамусьці вельмі бадзёра спытаў казах. Мэдсястра сумелася ня столькі ад маёй аголенасьці, колькі ад мытнікавага мядзьведжага жарціку. Казах заўсьміхаўся. Паказаў кепскія, але яшчэ свае зубы. Галава ў казаха падобная да меднага сагана. Твар нязвыкла шырокі. І я зусім не чакаў, што ўсьмешка зробіць казахскі твар яшчэ шырэйшым. Гэта той выключны выпадак, калі твар чалавека ўшыркі больш, чым увышкі.

У Карлавых Варах усьміхаюцца ўсе, усім весела, ня суына й мне, але хочацца яшчэ спакойнага, немітусьлівага сяброўства. Такога, каб пагаварыць, выпіць разам грамаў чатырыста мінэральнай вады, пагуляць па гарах, зьесьці ў рэстарацыі стронгу, абмеркаваць чэшак і звычайнай травой палюбавацца. Шукаў я такога сябра і знайшоў. Ён, як ты здагадваесься — чэх. Такі сапраўдны чэх у чорным капялюшыку, з усьмешкай, з гонарам, але без фанабэрыі. Я яго любіў зь дзяцінства. Спадзяюся, я таксама зачытваўся ягонымі вясёлымі апавяданьнямі з розных кішэняў. Я выбраў сабе ў сябры Карэла Чапека. Бо шмат разоў перачытваў ягоныя нататкі з розных куткоў тады яшчэ неаб'яднанай Гітлерам Эўропы, бо люблю паразглядаць наіўныя, зробленыя зь ненавязлівай дакладнасьцю малюнкі, бо шаную ягонае знаёмства-сяброўства з самым грунтоўным раманістам XX стагодзьдзя Томасам Манам. У творчасьці Чапека мне падабаецца ўсё: і мэтафізычныя фатаздымкі з бацевымі чаравікамі, і афарыстычныя жарты, і нянавісьць да гітлерызму, і нарысы пра тое, як рабілася чэскае кіно й чэская газэта. Вось з кім хацелася б пагаварыць у карлаварскай альтанцы. Сказаць яму díki за геніяльна вынайдзенае слова робат. Сапраўды геніяльнае. Паслухай, як гучыць... Паўстаньне робатаў пад кіраўніцтвам Спартака. Чуеш? І так, як ты чуеш мяне, я чую Карэла Чапека. Яшчэ ж засталіся ягоныя старонкі, не прачытаныя мной. Dixi.

*Карлавы Вары. Люты. 1999 год.*



